БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

8 верасня 1994 г.
Чацвер
№ 98(13815)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года

*Малюе Віктар ДУБОВІК*



## Кур'ер "ЧЗ"

### Як адрэагавалі на месцах?

*На 16 верасня назначана сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з кіраўнікамі мясцовых органаў улады. На ёй плануецца абмеркаваць ход выканання прэзідэнцкіх указаў і распараджэнняў на месцах.*

У першую чаргу гэта будзе датычыць рэалізацыі ўказанняў, што змяшчаюцца ў тэлеграме, накіраванай Аляксандрам Лукашэнкам ва ўсе выканаўчыя камітэты ў хуткім часе пасля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах. Як вядома, у ёй ва ультыматыўнай форме было ўказана, што перыяд чакання далей працягваць не варта, паколькі службовых абавязкаў кіраўнікам усіх узроўняў ніхто не адмяняў. Кіраўнікам мясцовых органаў улады таксама трэба паведаміць, як выконваецца прэзідэнцкі ўказ, які змяшчае рэкамендацыю скараціць на 30 працэнтаў колькасць апарату выканкамаў мясцовых Саветаў.

БЕЛІНФАРМ.

### Прэс–канферэнцыя А.Фядуты

*Сустрэча з журналістамі Аляксандра Фядуты, начальніка Упраўлення грамадска–палітычнай інфармацыі ў адміністрацыі прэзідэнта, якая адбылася ў Нацыянальным прэс–цэнтры, не была абмежавана тэматыкай. Прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі мелі магчымасць задаваць любыя пытанні аб дзейнасці адміністрацыі прэзідэнта.*

Усіх без выключэння цікавіла пытанне, калі ж прэзідэнт асабіста зможа сустрэцца з работнікамі пяра і, што называецца, без пасрэднікаў пракаменціраваць падзеі, якія адбываюцца ў рэспубліцы. Аляксандр Фядута паведаміў, што такая прэс-канферэнцыя адбудзецца, хутчэй за ўсё, пасля паездкі Аляксандра Лукашэнкі па Брэсцкай вобласці. А пакуль вядома толькі тое, што прэзідэнт мае намер сустрэцца з прадстаўнікамі газет і інфармацыйных агенцтваў яшчэ да пачатку правядзення чарговай сесіі парламента, паколькі лічыць неабходным прапанаваць народным дэпутатам не разглядаць праект Закона аб сродках масавай інфармацыі, які, мякка кажучы, не адпавядае духу часу.

Пытанне падрыхтоўкі прэзідэнцкай праграмы надзвычайных мер па выхаду рэспублікі з эканамічнага крызісу таксама цікавіла журналістаў. Яны даведаліся, што над гэтай праграмай працуюць не толькі прадстаўнікі прэзідэнцкай адміністрацыі і ўрада, але і група ад Саюза прадпрымальнікаў рэспублікі, Савета федэрацыі прафесіянальных саюзаў, шэрага акадэмічных інстытутаў, у тым ліку Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі і Інстытута эканомікі АН Беларусі. Праграма першачарговых мер распрацоўваецца канкрэтная, з вызначэннем тэрмінаў і канкрэтных ведамстваў, адказных за выкананне яе асноўных палажэнняў. Спачатку планавалася, што меры будуць вызначаны на бліжэйшыя 6—8 месяцаў, аднак цяпер распрацоўшчыкі ініцыіруюць павелічэнне тэрміну да аднаго года.

Кіраўнік упраўлення інфармацыі паабяцаў журналістам, што такія сустрэчы, калі членам прэзідэнцкай адміністрацыі трэба будзе каменціраваць бягучыя падзеі, стануць традыцыйнымі і будуць закранаць абсалютна ўсе праблемы, якія цікавяць прэсу.

Святлана КУЛІКОВА.

### Грошы за хуткасць

*У беларускай сталіцы адкрылася рабочая нарада групы па ажыццяўленню праекта "Транспартны калідор Берлін—Варшава—Мінск—Масква". У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі больш чым 50 арганізацый, банкаў і фірм з Беларусі і Расіі, Германіі і Польшчы.*

Акрамя зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў гэтых дзяржаў, у дзелавой сустрэчы ўдзельнічаюць міжнародныя фінансавыя ўстановы: Сусветны банк і Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця.

Спецыяльныя праекты ў галіне транспарту, якія выконваюцца з удзелам міжнародных арганізацый, асабліва паспяхова ідуць у рамках праграмы TACIC. Крэдытнае пагадненне, падпісанае Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця і Рэспублікай Беларусь, з'яўляецца пачатковым этапам доўгатэрміновай праграмы мадэрнізацыі чыгункі Брэст—Мінск—граніца Расіі. Названай праграмай прадугледжана дапамога і Беларускай чыгунцы. Размова ідзе аб арганізацыі скораснага, а затым высакаскораснага пасажырскага руху па лініі Масква—Мінск—Варшава—Берлін.

### Беларусь нацэлена на рэформы

*У Мінску з афіцыйным рабочым візітам пабывала ўрадавая дэлегацыя нямецкай зямлі Паўночны Рэйн–Вестфалія на чале з намеснікам прэм'ер–міністра, міністрам унутраных спраў Хербертам Шноарам.*

Адбылася сустрэча дэлегацыі з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгірам, міністрам адукацыі і навукі — В.Стражавым, аховы здароўя — І.Драбышэўскай, унутраных спраў — Ю.Захаранкам, старшынёй КДБ У.Ягоравым.

БЕЛІНФАРМ.

### Скарынаўская – не толькі біблія

*Выпуск "Маскоўскага" піва на Полацкім піваварным заводзе неўзабаве будзе спынены, паколькі Расія заявіла на яго свае правы.*

Затое на падыходзе да масавага выпуску свой уласны гатунак. Піва "Скарынаўскае" ўжо прайшло пробу і спадабалася сваёй духмянасцю, 13-працэнтнай моцнасцю з соладавым прысмакам і прыемнай горыччу.

Затрымка толькі з-за дакументацыі, якая на зацвярджэнні, ды этыкетак, што друкуюцца па распрацоўцы мастацка-вытворчага прадпрыемства "Рыса".

Яўгенія Віцьба.

### Без "жылля" зняволеныя не застануцца...

*Упраўленне па папраўчых справах МУС падвяло вынікі "папаўнення" калоній за сем месяцаў гэтага года. Як сведчаць прыведзеныя звесткі, злачыннасць у рэспубліцы ўвесь час расце. Так, толькі за паўтара года колькасць зняволеных у папраўча–працоўных калоніях павялічылася больш чым на 10 тысяч чалавек.*

Калі на 1 студзеня 1993 года іх было (не ўлічваючы следчыя ізалятары і лячэбна-працоўныя прафілакторыі) 23 тысячы 415 чалавек, то на 1 жніўня гэтага года налічвалася ўжо 35 тысяч 495 чалавек. Зараз у рэспубліцы 2 турмы і 18 калоній. Апошняя з іх адкрылася ў мінулым годзе. Але гэта не вырашыла праблему перапоўненасці папраўчых устаноў. "На падыходзе" яшчэ тры калоніі, якія будуюцца на базе былых ваенных гарадкоў. Акрамя гэтага, у рэспубліцы знаходзяцца 2 лячэбна-працоўныя прафілакторыі, 3 выхаваўча-працоўныя калоніі для непаўналетніх і 7 следчых ізалятараў. Таму, згодна з данымі упраўлення па папраўчых справах МУС, у падначаленых яму ўстановах агульная колькасць "спецкантынгента" складае сёння каля 48 тысяч чалавек.

Наталля ВАЛАКІДА.

### Не пудраць мазгі

*На віцебскім вытворчым аб'яднанні "Маналіт" выраблена першая пробная партыя кампактнай пудры. Неўзабаве тут з'явіцца і яшчэ адна навінка — сервіз "Траўнік" для заваркі гарбаты.*

У адрозненне ад многіх іншых прамыслоўцаў, на прадпрыемстве не пудраць мазгі прыгожымі абяцанкамі, а ствараюць канкрэтны рынак канкрэтных тавараў.

Уладзімір МІХНО.

**Курсы валют на 7 верасня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 2840 | 2925 | 1832 | 1890 |
| "Дукат" | 2820 | 2900 | 1770 | 1860 |
| "Прыор" | 2870 | 2930 | 1840 | 1880 |

Фота Сяргея БРУШКО.

## Аб рэнамэ беларускага прэзідэнта "клапоцяцца" ў Расіі

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Сянько 6 верасня сустрэўся з надзвычайным і паўнамоцным паслом Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Ігарам Сапрыкіным. Як сказаў У.Сянько, у ходзе перагавораў ішла размова аб далейшым супрацоўніцтве Рэспублікі Беларусь і Расіі. Вялікае месца ў час гутаркі было адведзена пытанням падрыхтоўкі візіту ў нашу рэспубліку прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына і прэм'ер-міністра Віктара Чарнамырдзіна, хоць канкрэтная дата гэтых візітаў пакуль не вызначана. Міністр і пасол дамовіліся таксама аб тым, што знешнепалітычныя ведамствы павінны быць у курсе, як ідзе падрыхтоўка шэрагу эканамічных і палітычных пагадненняў, што будуць падпісаны паміж дзвюма дзяржавамі ў бліжэйшай перспектыве.

Уладзімір Сянько таксама заявіў, што ён папрасіў расійскага пасла перадаць кіраўніцтву краіны абурэнне ў сувязі з публікацыяй "Краіна агуркоў", напісанай яўна ў шавінісцкім духу, якая з'явілася 3 верасня ў газеце "Известия". Яна выклікала, мякка кажучы, здзіўленне ў кіраўніцтва краіны. Гэты артыкул, паводле слоў міністра, прыніжае і абражае не толькі прэзідэнта Беларусі, але і ўвесь беларускі народ.

У.Сянько таксама адзначыў, што менавіта расійскі друк у апошні час стаў ініцыятарам стварэння негатыўнага іміджу кіраўніка беларускай дзяржавы. "Мы не можам маўчаць, не маем права не прыцягнуць увагі палітычнага кіраўніцтва Расіі да сітуацыі, якая складваецца", — сказаў ён.

**АДМЕТЫ ЧАСУ**

## "Чорная дзірка" на паперы

☐ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

*Палітычная восень на Беларусі абяцае быць гарачай парой. Прычым тэмпература будзе павышацца не толькі ў Авальнай зале парламента, ва ўрадавых і прэзідэнцкіх "калідорах улады", урэшце на плошчах, старажытныя і новаадбудаваныя мураваныя абліччы якіх апошнімі гадамі рэгулярна становяцца сведкамі мітынгаў і шэсцяў самых розных натоўпаў і плыняў.*

Своеасаблівы бляск — агонь, атрамантны напал дададуць да сціплага восеньскага святла нябёсаў "папяровыя кастры". І сапраўды, гартаючы беларускую перыёдыку, выданні блізкага замежжа, пакуль яшчэ даступныя чытачам у тых ці іншых кропках загадкавай прасторы СНД і нават на яе перыферыі, цяжка не заўважыць, як літаральна з кожным днём узмацняецца інфармацыйны паток, пазначаны дастаткова адметнымі тэмпераментам і тэмпературай. Зусім невыпадкова, што ў поліфанічным папяровым хоры прэваліруе прэзідэнцкая і ўвогуле "ўладная" тэма. Пра гэта крыху ніжэй, спадзеючыся на прабачэнне ўважлівага чытача на кароткае лірычнае адступленне.

Палітыка, тым больш высокая палітыка, дый усё да дробязей наўкол яе, сталі для многіх (пра журналістаў і казаць няма чаго) нейкім магічным энергаполем. Яно нібыта экранравана, хто пабываў на ягоным зачараваным іржэўніку, наўрад ці паверне назад, бо куды, куды вяртацца? Пасля лагічнага завяршэння гарбачоўскай перабудовы (тут трэба падкрэсліць — прамежкавага завяршэння, паколькі "пайшоўшы працэс" толькі набірае імклівапагрозлівую скорасць) у мільёнаў апроч чорнага хлеба, засталіся адны відовішчы. Прычым, калі, напрыклад, правесці ўяўную антычную паралель, гэткае параўнанне, відавочна, будзе на карысць вечнага горада, дзе народную мудрасць і сфармулявалі патрыцыі. Аднак справа не ў аналогіях. Антыка або готыка хай застаюцца назаўсёды пад сваім "мёртвым" сонцам. Наша эпоха паволі перастала быць "вялікай эпохай" (Лімонаў і К°), сучаснасць захапіла ў палон сучаснікаў-відавочнікаў. І страсці тут свае, для часу характэрныя. Усё меней народу блукае па кніжных развалах, шэдэўры класікі і звышсучаснага ўчарашняга андэграунда паступова пакрывае бэзавы пылок забыцця. Мабыць, само жыццё рэчаіснасць, якое паставіла былых савецкіх людзей перад неабходнасцю штодзённага пошуку крыніц для элементарнага біялагічнага існавання, прымусіла і прымушае новых рамантыкаў-уцекачоў ад быцця (мы памятаем пра асноўную прыкмету "савецкасці" — міфалагічнасць) станавіцца ў чаргу па палітычныя казкі з малюнкамі. Таму і шэсце на палітычнае ж поле цудаў не спыняецца, ніяк не станчаецца чалавечы натоўп, а тут — свае законы. Бо палітыка робіцца не толькі персаніфікаванымі носьбітамі яе палымнеючых штандараў, але і тымі, хто побач, убаку, а то і "над схваткай". Прычым у вачах людзей можа ярчэй адбівацца не суровае святло жыцця, не водбліск рэальнасці, а міражнае мігаценне. Персанажы жывуць на паперы, аднак даволі часта якія-небудзь чорнасурыкавыя ненатуральныя ніткі цягнуцца з папяровай эфемерыды-аднадзёнкі менавіта да таго самага суровага і рэальнага святла, зліваюцца з ім. Як сэрцу выказаць сябе, як не заблытацца ў Цымінійскім слоўным лесе, дзе хімеры блукаюць, быццам самыя што ні ёсць звышрэальныя фігуры. Пытанне без адказу.

Вернемся да нашых папяровых страсцей. Паўторым: "прэзідэнцкая" тэма вабіць да сябе і ў тым няма нічога незразумелага. Сутнасць самой праблемы ўлады вельмі неадназначная і зноў-такі поліфанічная. Тым больш неадназначную трактоўку могуць (і не без падстаў) выклікаць тыя ці іншыя крокі прадстаўнікоў правячай іерархічнай эліты. Горш, калі іх фігуры, нібыта згодна з прысна-памятным сацыяльным заказам,

*(Працяг на 2-й стар.).*



## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурныя па выпуску перакладчык Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.

### "Еўраньюс"

#### Прыстойнасць ёсць прыстойнасць

*У 1992 годзе вышэйшы суд Нью–Йорка прыняў рашэнне аб тым, што жанчыны, як і мужчыны, могуць знаходзіцца ў публічных месцах агаленымі па пояс.*

У хуткім часе знайшліся аматары паспрабаваць гэты закон на трываласць — дзве жанчыны з арганізацыі "Ціці Ліберэйшн" з'явіліся ў адпаведным выглядзе ў нью-йоркскім метро ў час пік. Іх з'яўленне выклікала адпаведную рэакцыю, паліцыя не ведала, што рабіць, быццам ёсць закон, але ўсё ж прыстойнасць ёсць прыстойнасць.

### "Суперчэннэл"

#### Турнэ па Паўночнай Амерыцы

*Упершыню за апошнія 2 гады вядомы музыкант Эрык Клэптан плануе правесці турнэ па Паўночнай Амерыцы.*

Усяго мяркуюцца 23 выступленні ў Канадзе і ЗША. Пачнецца турнэ 3 кастрычніка ў Квебеку. Самымі ж грандыёзнымі мяркуюцца выступленні 8 і 9 кастрычніка ў нью-йоркскім "Мэдзісон Сквер Гардэн" і "Форуме" Лос-Анжэлеса.

#### Не збівайце веласіпедыстаў

*Паліцыя Паўднёвай Каралiны прапанавала вядомаму ў мінулым музыканту — 61–гадоваму Джэймсу Брауну з'явіцца 3 кастрычніка ў суд.*

Яго абвінавачваюць у парушэнні правілаў вулічнага руху — на скрыжаванні ён не ўступіў дарогу веласіпедысту. У выніку апошні быў збіты, але як кажуць, толькі крыху спалохаўся, адмовіўшыся ад дапамогі ўрачоў.

*(Працяг на 3-й стар.).*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## АПЛАДЫСМЕНТЫ

### ЗНАХОДКА Ў МУЗЫЧНЫМ ЗАВУЛКУ

*У беларускай сталіцы, відаць, з'явіцца адзін утульны куток, дзе беражліва будуць захоўваць прадметы даўніны.*

Нядаўна на сцяне аднаго з дамоў у Музычным завулку, дзе сёння ідзе татальная рэканструкцыя, студэнт кансерваторыі знайшоў фрагмент жывапісу. Група беларускіх рэстаўратараў, якая даследавала малюнак, прыйшла да заключэння, што ён быў створаны ў пачатку XIX стагоддзя. Асаблівая цікавасць у тым, што будынак быў не культавым, а свецкім. Відаць, малюнак упрыгожваў гасціную заможнага гараджаніна.

Рэстаўратары правялі ўжо адпаведную работу па захаванню унікальнай фрэскі. Ёсць дамоўленасць і з будаўнікамі: сцяна будзе захавана ў новым будынку, які ўзнікне на гэтым месцы ўжо ў канцы бягучага года. Паводле папярэдніх звестак, у доме знойдзе прапіску нешта накшталт музея або літаратурнай гасцінай.

**БЕЛІНФАРМ.**

### ПАКРОЎСКАМУ САБОРУ – 70 ГОД

*У Варшаве па падпісцы на народныя грошы будаваўся самы вялікі ў свеце праваслаўны храм Аляксандра Неўскага, але польскія ўлады яго ўзарвалі.*

Цудам мазаічныя пано "Багародзіца з дзіцём", выкананае па эскізу мастака Васняцова, "Спас з данатарам" па кардонах Кошалева, "Багародзіца з анёлам" па кардонах Бруні і іншыя былі выратаваны і перавезены ў горад чыгуначнікаў — Баранавічы. 70 год таму, у 1924 годзе, тут пачалі будаваць славуты Пакроўскі сабор, у які змясцілі гэтыя выратаваныя мазаікі. Як адзначаюць спецыялісты, фрэскі Баранавіцкага храма з'яўляюцца набыткамі сусветнай культуры, а адлюстраванне знішчанага велічнага сабора Аляксандра Неўскага можна пабачыць у храме ў Баранавічах на мазаіцы "Дэісус" (у інтэр'еры над паўночным уваходам), у вобразе данатара паказаны архітэктар Л.Бенуа з мадэллю Варшаўскага праваслаўнага святога будынка. Пакроўскі сабор у Баранавічах пабудаваны па праекту архітэктара А.Аблонскага і з'яўляецца помнікам дойлідства неакласіцызму.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ.**

### "ЗДРАВСТВУЙ, ЧУЖАЯ МИЛАЯ!": ДУБЛЬ ДРУГІ

*Рэдакцыяй музычных і пацяшальных праграм БТ падрыхтавана да эфіру паўтарагадзінная тэлеверсія ўжо другога ў гэтым годзе сольнага канцэрта поп–зоркі Беларусі Аляксандра Саладухі, які адбыўся ў рамках II Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна–94".*

У суботу, 10 верасня, у 19.05 па беларускай праграме тэлегледачы змогуць не толькі пачуць цудоўныя песні ў Сашавым выкананні, але і на свае вочы ўбачыць, што на самай справе адбывалася на трыбунах маладзечанскага стадыёна, якія ўмясцілі ў той вечар 17 тысяч чалавек.

У гэтым яму вельмі дапамаглі яго спонсары — прэзідэнт прыватнай фірмы "Сатурн" Анатоль Навумовіч і генеральны дырэктар фірмы "Руст" Сяргей Пракаповіч. Дарэчы, усе жадаючыя могуць прадоўжыць задавальненне і набыць толькі што выдадзены мінскай студыяй гуказапісу "Рэкорд" першы магнітаальбом Саладухі "Здравствуй, чужая милая!" з песнямі любімага спевака.

**Андрэй ВАСІЛЬЕЎ.**

### ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ БЕЛАРУСКАЙ РОК–МУЗЫКІ

*Хоць гісторыя беларускага рока пачалася не вельмі даўно, ён паспеў ужо заваяваць сваіх прыхільнікаў. Вытокі айчыннай рок-музыкі вядуць нас у 80–я гады, калі пачалі ўзнікаць гурты "Мроя", "Бонда", "Блізняты", "Магістрат", "Рэй", "Рокаш", "Мясцовы час" і іншыя. У сяброўскіх тусоўках, гутарках і спрэчках, што адбываліся "на хатах", па падвалах, у кавярнях, зараджаўся, дужэў, развіваўся беларускі рок.*

Айчынныя рок-музыкі часцей за ўсё не абмяжоўваліся якім-небудзь адным стылем, спрабавалі свае сілы і ў хард-року, і ў блюзе, і ў хэві-метал, і ў панку...

Зараз беларускі рок прызнаны нават за мяжой, канцэрты "Крамы", "Зарціпо", "Зіндана" выклікаюць вялікую цікавасць у замежных слухачоў. На жаль, на сваёй радзіме беларускіх музыкаў цэняць значна менш.

Пазнаёміцца з гісторыяй беларускага рока, атрымаць інфармацыю пра найбольш вядомыя рок-гурты, пра "адзіны беларускі фэст маладзёжнай музыкі" — "Басовішча" — дапаможа бібліяграфічны спіс "Беларускі рок", змешчаны ў дадатку да № 7 "Новых кніг Беларусі" за гэты год. Тут чытач знойдзе кароткія даведкі пра гурты "Сузор'е", "Мроя", "Бонда", "Уліс", "Рокіс", "Крама", "Зарціпо", "Мясцовы час", "Тарнада", "Зіндан", "Дзіда", "Інтэрпол", "Б.Б.", "Князь Мышкін", "Ы.Ы.Ы.", "Камэлот", "Эксгуматар", "Seven B", "White nite" і іншыя. У спіс уключана літаратура пра гісторыю і сучасны стан беларускай рок-музыкі, прыведзены меркаванні расійскіх рок-музыкантаў пра сваіх "калег" з Беларусі. Спадзяёмся, што гэты бібліяграфічны спіс выклікае цікавасць сярод аматараў беларускага рока.

**К.ШЫШКОВА.**

---

ЧЗ

### ДЗЕ ВЫЙСЦЕ З ТУПІКА?

*Адбылася сустрэча сустаршынь Камісіі ААН па былой Югаславіі — Оўэна і Столтэнберга з прэзідэнтамі Сербіі і Чарнагорыі.*

Было абмеркавана пытанне аб зняцці санкцый ААН з гэтых былых югаслаўскіх рэспублік. Таксама вялася размова аб шляхах выхаду міратворчага працэсу з тупіка, у якім ён аказаўся пасля таго, як больш за 90 працэнтаў баснійскіх сербаў адхілілі план мірнага ўрэгулявання, распрацаваны кантактнай групай.

### ПАПА РЫМСКІ ПАВЯРНУЎ НАЗАД

*Мяркуючы па ўсяму, можа не адбыцца паездка Папы Рымскага Іаана Паўла II у Сараева.*

Гэта звязана, перш за ўсё, з абстаноўкай вакол баснійскай сталіцы. На чацвер была прызначана імша, якую старшыня каталіцкай царквы павінен правесці для жыхароў асаджаемага горада.

### "ДАБРАЧЫННАСЦЬ" ААН

*Войскі баснійскіх сербаў пачалі наступленне ў раёне горада Біхач.*

Усе гуманітарныя акцыі ААН у гэтым раёне спынены. Каля аэрапорта ў Сараева нядаўна быў адкрыты папярэджальны агонь па заходзячых самалётах. Агонь вёўся як з сербскага, так і з мусульманскага боку.

### НА ВОСТРАВЕ СВАБОДЫ СВАБОДЫ НЕ ВІДАЦЬ

*Ужо чацвёрты дзень працягваюцца перамовы прадстаўнікоў ЗША і Кубы з мэтай прыпыніць масавы адыход бежанцаў з Вострава Свабоды ў краіну статуі "Свабоды".*

Апошняя прапанова ЗША — прадастаўленне кубінцам 20 000 віз на ўезд у ЗША штогод. Куба ж настойвае на квоце 100 тысяч. Адыход бежанцаў па-ранейшаму працягваецца — у панядзелак берагавая ахова "вылавіла" 700 кубінцаў. Агульная ж іх колькасць за апошні час склала больш як 23 тысячы. Раней столькі збягала прыблізна за 10 гадоў.

### ЦІ МАНЬЯК, ЦІ МСЦІВЕЦ?

*Страшная трагедыя адбылася ў гарадку Торын–Сюр–Дзіэ на ўсходзе Францыі.*

Тут у сваім доме была выразана цэлая сям'я — бацька (34), маці (36), 2 дачкі (10 і 7 гадоў), трэцяя двухгадовая дачка толькі выпадкова ўцалела: знаходзілася ў садку. Страшную сцэну застаў адзін з работнікаў мясцовага атэлье, які зайшоў да бацькі сямейства. У гарадку, у якім жыве ўсяго 1600 чалавек, размешчана 250 паліцэйскіх, па ўсёй краіне ідуць пошукі забойцы. Матывы пакуль невядомыя.

### РЭФЕРЭНДУМ – НЕАБХОДНЫ

*Паводле апошняга апытання, праведзенага на гэтым тыдні ў Фінляндыі, насельніцтва гэтай краіны падзялілася на два прыблізна роўныя лагеры — палова — "за", палова — "супраць" уступлення Фінляндыі ў Еўрапейскі саюз.*

Гэтае апытанне, несумненна, прыцягне ўвагу ў Швецыі і Нарвегіі, якія ў бліжэйшы час правядуць рэферэндум аб уступленні ў Еўрапейскі саюз.

### У СМЕРЦІ АБВІНАВАЧВАЕЦЦА...

*Бацька галівудскай зоркі Рывер Фенікс заявіў, што ў смерці яго сына вінаваты адзін малады чалавек з ліку сяброў, аказаўшы на яго дрэнны ўплыў.*

Гэты мужчына з былых рок-зорак. Паводле некаторых прычын, яго імя пакуль не называецца. Сам Рывер Фенікс памёр у мінулым годзе ад вельмі вялікай дозы наркотыкаў.

---

## КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО

# Над Белай Руссю белая чума

□ Васіль КУРЛОВІЧ, супрацоўнік прэс–службы МУС Рэспублікі Беларусь

*Будзем глядзець праўдзе ў вочы. Страшныя эпідэміі ўсё больш і больш раз'ядаюць і без таго хілы, пашкоджаны язвамі капіталізацыі арганізм грамадства. Яны ціха ўпаўзаюць у нашы хаты, у скляпенні і на паддашкі, атручваюць людскія сэрцы і душы. У ліку асабліва небяспечных і эпідэмія наркаманіі. Яна адваёўвае ўсё новыя і новыя рубяжы не толькі ў гарадах, але, як сведчаць шматлікія факты, і на перыферыі.*

Людачка ў дзявоцтве была вельмі прыгожая. Стройная, з ямачкамі на шчоках, з даверлівымі вялікімі вачыма. І я, толькі што атрымаўшы ў шматпавярховым доме сваю першую ў жыцці аднапакаёвую кватэру, неяк напаткаў яе. "Прыгажуня!— адзначыў тады ў думках.— Трэба ж урадзіцца такой прывабнай!" На сэрцы нешта ўспыхнула, расцвіло. Захацелася жыць, кахаць, тварыць.

Ішоў час. Вяртаючыся дамоў, стомлены, незадаволены сабой, марыў, што аднойчы зноў сустрэну Людачку і будзе па-ранейшаму чыста на душы, вернуцца радасць і весялосць. Але беглі ўдалячынь дні, а на сэрцы пасялілася нейкае нядобрае прадчуванне. Цяпер маркотны дагляд двара, з адзіным на ўвесь дом пад'ездам, не радаваў. І ўсё ж непаўторнае даўняе пачуццё яшчэ тлела ў душы. Я жыў надзеяй. І вось...

Прыгнечаная і ашаломленая сустрэча з Людкай адбылася толькі праз дванаццаць гадоў. Здранцвелую, збялелую, яе выносілі з пад'езда на насілках, і толькі па ледзьве прыкметных ямачках на бледных шчоках я пазнаў яе, былую прыгажуню. Высветлілася, што Людмілу ўжо не першы раз ратуюць урачы "хуткай дапамогі", што яна не раз хацела скончыць самагубствам, што яна... наркаманка.

Вось так крута, нечакана пайшло яе жыццё пад адхон. Але ці толькі яе? Многіх. Тады ля пад'езда я не так зразумеў, як пакутліва адчуў: наркотыкі — смяротны яд, які не шкадуе ні прыгожых, ні моцных, бязлітасна спустошваючы сілы, душы, розум. Чаго ўтойваць — на сэрцы было цяжка, балюча і страшна.

Што з намі робіцца? Пытанне, якое хвалюе значную частку грамадзян; на вуліцах, у чэргах — усюды, дзе не-не, ды і ўспыхваюць спрэчкі-гутаркі аб злачыннасці, аб хваробах стагоддзя, эпідэміях халеры, аб дзівосах "дзікага" рынку...

Але размовы размовамі! А факты, цяжкія і ўпартыя, сведчаць аб небяспецы распаўсюджвання яшчэ адной эпідэміі — наркаманіі. Статыстыка сведчыць: колькасць асоб, схільных да ўжывання "белага дурману" ў нашай рэспубліцы, з улікам скрытнасці, складае больш як 16 тысяч чалавек. І калі, вобразна кажучы, кругі ад кінутага ў вір каменя з назвай наркаманія пойдуць не па чыстай вадзе прадухілення распаўсюджання небяспечнай заразы, а па руцінных каналах замоўчвання, непрыняцця тэрміновых мер, то, няцяжка падлічыць: да 2000 года колькасць "ачмураных" опіумна-гашышна-канаплянымі сродкамі павялічыцца да 90 тысяч чалавек. Словам, не да аптымізму. Становішча пагражальнае.

Калі знаёмішся з фактамі, пераконваешся, што людзі падчас не разумеюць свайго шчасця. Многім, відаць, няўцям, што яно заключаецца найперш у здароўі. Мабыць, позна зразумелі гэта і тыя дваццаць два нябожчыкі, якія атруціліся наркатычнымі "кактэйлямі", прыгатаванымі ў хатніх умовах.

Непакоіць работнікаў праваахоўных органаў і пытанне росту злачынстваў, ажыццёўленых пад опіумным "шафэ". У зводцы гэтак і значыцца: у першым паўгоддзі 1994 года іх учынена 635, або колькасць іх павялічылася за апошнія 5 гадоў у 10 разоў. Словам, ёсць над чым паразважаць. Злачыннасць была і застаецца адным з самых небяспечных сімптомаў у любым грамадстве. А калі забойства, крадзеж, згвалтаванне ўчыняюць асобы, нашпігаваныя наркотыкамі, гэта павінна стаць сігналам бяды, сігналам прыняцця неадкладных мер. Тут мяне гэтак і падмывае падкрэсліць: калі ў бліжэйшы час становішча спраў у барацьбе з наркаманіяй не выправіцца, то пажынаць давядзецца горкія плады ўжо ў бліжэйшыя гады.

Адным словам, палохае бліжэйшая перспектыва. Трэба ўсвядоміць і тое, што незаконнае абарачэнне наркатычных сродкаў і сыравіны павялічваецца, у прыватнасці, калі ў 1989 годзе праваахоўныя органы ліквідавалі 174 кілаграмы опіуму, макавай саломкі, гашышу, то ў мінулым ужо ў 7 разоў больш. Усе гэтыя, мякка кажучы, "дасягненні" асабліва ярка праяўляюцца менавіта цяпер, калі на ўсіх узроўнях хаос, прыніжана патрабавальнасць, калі буйна квітнее злачынная "маліна" з душком канаплі, саломкі маку...

Адчуўшы парадоксы часу і, магчыма, жадаючы на чужым горы пабудаваць палацы, тысячы нідзе не працуючых суграмадзян-дзялкоў замест вырошчвання агародніны, бульбы кінуліся культываваць на прысядзібных дзялянках пасевы маку, канапель. Больш як шэсць тысяч квадратных метраў плошчаў пад гэтымі раслінамі было выяўлена пад час сумеснай аперацыі міліцыі з падраздзяленнямі ўнутраных войск у Брагінскім, Нараўлянскім, Хойніцкім раёнах; на тэрыторыі рэспублікі выкрыта 46 злачынных груп, якія займаліся незаконным абарачэннем наркотыкаў, ліквідавана пяць падпольных лабараторый з прыстасаваннямі і абсталяваннем для вырабу "дурману".

Жадала, відаць, патрапіць пад чорнае крыло наркамафіі і адна з жыхарак Давыд-Гарадка Столінскага раёна, у доме якой было выяўлена больш як 47 кілаграмаў макавай саломкі. Але хвалюе не толькі гэта. Зрэшты, жывуць людзі не на хутарах у лясных нетрах. Сусед бачыць, што квітнее на градзе ў суседкі. І навесці парадак не ўяўляе складанасці. Хвалюе тое, што рэспубліка акурат на скрыжаванні шляхоў з Захаду на Усход, з Поўначы на Поўдзень. І тут, акрамя зручнасці зносін, ёсць негатыўны адбітак. У прыватнасці, да дваццаці працэнтаў наркатычных сродкаў трапляе ў Беларусь з рэспублік былога СССР — Украіны, дзяржаў Сярэдняй Азіі, Каўказа, Расіі. Толькі ў мінулым годзе было затрымана больш як сорак гандляроў опіумам, марыхуанай, гашышам з блізкага замежжа.

Не забываюць наведацца ў рэспубліку з мэтай распаўсюджвання наркатычнай чумы і грамадзяне краін "залатога паўмесяца" (Ірана, Пакістана, Афганістана). Так, мытнымі службамі г.Брэста быў затрыманы кантэйнер з 2389 кілаграмамі гашышу, які перасоўваўся з Афганістана праз Таджыкістан, Узбекістан, Казахстан, Расію ў Польшчу. Пры аглядзе другога кантэйнера, які праехаў тым жа маршрутам, ужо мытнікамі Польшчы было знойдзена 2100 кілаграмаў таго ж грузу. А ўсяго ў мінулым годзе пры спробе перасячэння мяжы з наркотыкамі было затрымана 38 чалавек. У асноўнай большасці — грамадзяне Германіі, якія ў свой час эмігрыравалі з Казахстана. А зусім нядаўна ў сталіцы былі затрыманы тры грамадзяніны Індыі і Пакістана, у дыпламаце з двайным дном якіх было выяўлена 2,1 кілаграма гераіну.

Як сведчаць прыведзеныя факты, тэрыторыя рэспублікі разглядаецца заходнімі бізнесменамі (у тым ліку і дзялкамі ад наркамафіі) як зручнае месца для адмыву брудных грошай, ажыццяўлення здзелак, звязаных з распаўсюджваннем наркатычнага дурману. Вось таму праваахоўныя органы могуць і павінны, лічу, актывізаваць работу па выкрыццю зламыснікаў. Канешне, тое-сёе ў гэтым кірунку робіцца: удасканальваецца сувязь для каардынацыі дзейнасці органаў МУС, КДБ, Мытнага камітэта і Упраўлення пагранвойскаў, рэспубліка ўдзельнічае ва ўсіх мерапрыемствах, што праводзяцца ААН у рэчышчы барацьбы з наркаманіяй, заключаны міжнародныя пагадненні аб прававой дапамозе між Беларуссю, Літвой і Кітаем, у кастрычніку 1992 года МУС Рэспублікі Беларусь удзельнічала ў распрацоўцы і падпісанні ў г.Кіеве Пагаднення аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі ўнутраных спраў 13 краін — рэспублік былога СССР у барацьбе з незаконным абарачэннем наркатычных сродкаў.

Усё гэта залічваецца. Але, на мой погляд, гэта толькі адзін бок медаля. Мы, кідаючыся ў крайнасці, разгубіўшы культуру ў падыходзе да рашэння любых пытанняў дробных і вялікіх, застаёмся ў шэрагу выпадкаў слабамабільнымі, грэзнем у руціне розных дробных іншы раз перашкод. А тым часам усё большая частка наркотыкаў, гэтай белай чумы, звальваецца на галовы суграмадзян, асабліва падлеткаў. Варта адвячоркам завітаць у які-небудзь курыльны закутак бара ці рэстарана і без цяжкасцей сярод цыгарэтнага дыму адчуваеш ледзь-ледзь улоўны пах канапель ці іншага дурману. Маркотна бачыць, як на вачах гіне маладое пакаленне —юнакі і дзяўчаты.

Калі падсумоўваць галоўнае: падраздзяленнямі МУС шмат робіцца ў справе барацьбы з наркабізнесам. І ўсё ж нашы кіраўнікі, вялікія і маленькія, мне здаецца, разумеюць, што задзейнічаны далёка не ўсе рэзервы, сродкі і сілы ў справе папярэджання зла, выяўлення і ліквідацыі ачагоў "белай чумы". У прыватнасці, скрытае ў шэрагу выпадкаў цячэнне наркаманіі, латэнтнасць хваробы пакідаюць пралазы кіраўнікам падраздзяленняў органаў унутраных спраў раённага звяна выкарыстоўваць спецыялістаў па барацьбе з наркаманіяй не па прамому прызначэнню, а таму расстаўленыя імі "сеткі" застаюцца пустымі. Вось таму на гэтым адказным участку работы інспектары крымінальнага вышуку, адчуваючы сябе хлапчукамі на пабягушках, больш чым два гады не затрымліваюцца.

Але прафілактыка — прафілактыкай, барацьба — барацьбой, а бяда застаецца бядою. Што рабіць тым, каго моцна трымае ў абдымках опіумна-гашыша-канапляны ўдаў. Далёка не кожны жадаючы нават з дапамогай медыцыны можа пазбавіцца гэтай цяжкай хваробы. Як ставіцца да гэткіх асоб? З традыцыйнай пагардай ці спачуваннем?

Хачу выказаць наконт гэтага ўласную думку. Якімі б прыніжанымі хваробай не былі гэтыя людзі, а дзяржава, усе мы павінны быць лаяльнымі. Акрамя таго, што ў рэспубліцы сёння няма спецмедустаноў вызначанага профілю па аказанню дапамогі наркаманам і іх сем'ям, прыкметных поспехаў у справе "эфекту поўнага скіду" хваробы не мае і айчынная медыцына. Вось і атрымліваецца: адзінае, чым мы можам дапамагчы хворым, якія ў свой час з-за слабавольнасці характараў трапілі ў залежнасць ад "белага дурману", гэта ўважлівымі адносінамі да хворых. Зрэшты, на першым этапе працякання немачы ёсць магчымасць вырваць чалавека з абдымкаў наркатычнага ўдава.

Словам, эпідэмія наркаманіі, якая глыбока пусціла карані ў краінах Захаду, дзе маладыя амерыканскія вучоныя не без падстаў параўноўваюць распаўсюджанне і згубнае ўздзеянне яе на чалавецтва з памерамі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, шпаркімі тэмпамі яна распаўсюджваецца і ў краінах былога СССР, у тым ліку і ў нашай рэспубліцы. І калі не паставіць надзейны заслон на яе шляху, то на гэты раз нас дашчэнту засыпле опіумна-гашышна-канапляна-гераінава-макава -марыхуанавым попелам, у якім сатлелі ўжо сэрцы многіх і многіх. І яе, маёй знаёмай Людмілы, — таксама.

**На здымку: наркаманы ў лячэбніцы.**

---

## ВЕДАЙ НАШЫХ

# "Пяць скарбонак Вялікіх снягоў"

*Глыбокай ноччу 3 верасня авіярэйсам "Масква—Катманду" удзельнікі першай беларускай экспедыцыі на Гімалаі "Канчынджанга–94" выправіліся ў Непал. Так ужо склалася, што ўзыходжанне на адну з чатырнаццаці горных вяршынь, якія маюць больш за восем тысяч метраў вышыні, — заўсёды падзея сусветнага значэння, а альпіністы, што з поспехам дамагліся мэты, абавязкова робяцца нацыянальнымі героямі. А краіна павінна ведаць сваіх герояў!*

Дык вось, ідэя беларускай экспедыцыі на Гімалаі з'явілася амаль дзесяць гадоў таму, але толькі ў мінулым годзе альпініст і прадпрымальнік Сяргей Новікаў выкупіў у Міністэрства турызму Непала права ўзыходжання на Канчынджангу з яе паўночнага боку. У перакладзе з тыбецкага дыялекту назва гары азначае "Пяць скарбонак Вялікіх снягоў". Пасля Эверэста і К-2 Канчынджанга лічыцца трэцяй па вышыні сярод усіх сусветных вяршынь. Нашы альпіністы збіраюцца штурмаваць Галоўную вяршыню, што мае 8598 метраў над узроўнем мора. Першая спроба ўзняцца на гару ў 1905 годзе скончылася трагічна: тры ўдзельнікі экспедыцыі загінулі, заваленыя снегам. Усе наступныя экспедыцыі таксама былі беспаспяховыя. І толькі ў 1955 годзе тры брытанцы першымі ўзняліся на вяршыню Канчынджангі...

Прапаноўваем вам пазнаёміцца з беларускімі альпіністамі. Кіраўнік каманды — 40-гадовы прадпрымальнік, прэзідэнт акцыянернага таварыства "Люкс-Гея" Сяргей Новікаў, намеснік кіраўніка і трэнер каманды — 58-гадовы ўрач Эдуард Ліпень, яшчэ адзін трэнер — 56-гадовы выкладчык Лінгвістычнага універсітэта Леанід Лазоўскі — усе з Мінска; камандныя ўрачы — 47-гадовы хірург Валеры Майсеенка і 34-гадовы Аляксандр Дуброўскі з пасёлка Лясны Мінскага раёна; 34-гадовы дырэктар спартыўнага клуба Мінскага педагагічнага універсітэта Сяргей Жвірбля, 32-гадовы ўрач з Барысава Віктар Кульбачэнка і адзіная жанчына ў групе, даволі вядомая беларуская альпіністка мінчанка Ірына Велянкова. Два члены каманды ўжо маюць вопыт узыходжання ў Гімалаях — у 1990 і 1993 гадах Эдуард Ліпень узнімаўся на Эверэст, а два гады таму разам з Ірынай яны "ўзялі" вяршыню Шыша-Пангма (8013 метраў).

На працягу трох тыдняў экспедыцыя спачатку на грузавіках, а пасля на магутных тыбецкіх жывёлінах — яках будзе дабірацца да падножжа Канчынджангі. Узыходжанне мяркуецца распачаць недзе 15—20 кастрычніка. На вялізнай вышыні, дзе паветра вельмі разрэджанае, альпіністам прыйдзецца карыстацца кіслароднымі балонамі. Хутчэй за ўсё беларусы выберуць свой, не падобны на іншыя, шлях да вяршыні.

**Ян ВЕРБА.**

---

## КРЫНІЦЫ

# "Не забывай пра горыч палыну..."

□ Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ

Паэтычная пошта, якая штодзень прыходзіць у рэдакцыю "Чырвонай змены", — самая разнастайная па абсягу тэм і праблем. Эканамічны і сацыяльны крызіс, беспрацоўе і высокія цэны, падзенне ўзроўню маралі і культуры, страта патрыятызму і многае-многае іншае, што літаральна адкінула нас на самыя задворкі цывілізаванага свету, — вось што ў асноўным хвалюе нашых няштатных аўтараў, чые вершы ляжаць на рэдакцыйным стале. "Дзе выйсце з гэтага жудаснага становішча, хто нам дапаможа?" — адчайна пытаюцца ў саміх сябе і ў кожнага з нас гэтыя маладыя людзі.

Асаблівую трывогу выклікаюць творы і пісьмы, дзе расказваецца пра наша экалагічнае становішча, нашы жорсткія адносіны да роднай прыроды і яе насельнікаў.

Праўда, некаторыя аўтары даволі многа пішуць сёння пра нейкага абстрактнага бога — тым болей, што дазволена і модна, захлынаюцца ад цьмянай рэлігійнай веры, забываючы, што Богам для прыстойнага чалавека заўсёды была менавіта матухна-Прырода. Бо ў ёй чалавек знаходзіў духоўнае апірышча, па адносінах да прыроды кожны правяраўся як грамадзянін, шчыра радаваўся яе хараству, дзівіўся загадкам і тайнам, а па магчымасці асобныя загадкі і тайны спасцігаў і расказваў пра іх астатнім людзям. І ў гэтым бачыў радасць і сэнс жыцця... Таму з такой павагай да аўтара ўспрымаеш надзвычай просты і ў той жа час змястоўны верш "Салоўка", які даслаў нам рабочы з Астравецкага раёна Станіслаў Валодзька:

*Гожа сонца грае —*
*хтосьці памагае.*
*Ды маўчыць салоўка*
*ў развясёлым гаі.*
*Што маўчыш, салоўка,*
*звесіўшы галоўку?*
*Што ў салавейкі*
*слёзанькі на вейках?*

У сваім допісе малады паэт расказвае, што многае ў жыцці ён прывык правяраць меркамі прыроды і адносінамі да яе. І ён цвёрда ўпэўнены, што чалавек, які па-сапраўднаму любіць, адчувае і шануе прыроду, вельмі рэдка бывае дрэнным... А людзей працы, як вядома, прырода аб'ядноўвае і натхняе. А праўда ж — і неабвержная, што асновай жыцця і ўсіх яго даброт з'яўляецца ён, чалавек Працы. Сёння яго давялі да адчаю і жабрацкага становішча, ды яшчэ слоўца вынайшлі: "люмпен..."

Гавораць, скарачаецца вытворчасць, усе мы пагалоўна бяднеем. Нельга не пагадзіцца з асобнымі нашымі аўтарамі: ды як яшчэ не ўсе!.. А адкуль жа мільянеры, якія растуць, бы грыбы,— і яўныя, і падпольныя. Урэшце, з чаго нараджаецца іх капітал? Згодзен, рытарычнае пытанне...

Мы, пісьменнікі, сталыя і пачаткоўцы, хто гаворыць і піша аб праблеме абароны роднай прыроды, надта ж лёгка парой пагаджаемся з умовамі навязанай нам спрэчкі. "Якую альтэрнатыву бачыце вы атамнай энергетыцы?"— пытаюцца ў нас, і мы безаглядна кідаемся шукаць альтэрнатыву. А чаму мы павінны яе шукаць? Энергетыкі, спецыялісты — вы, вось і шукайце. Нам добра вядома, што альтэрнатывы жыццю няма. Калі гэта смяротна — значыцца, ад гэтага трэба адмаўляцца. Любой цаной. "Грохнула і яшчэ грохне",— сказаў напрыканцы свайго жыцця славуты акадэмік. Медыкі ж не шукаюць альтэрнатыву перад страшнымі хваробамі, яны спрабуюць і стараюцца нас лячыць...

І наадварот — мы атручваем няшчадна сябе і сваіх блізкіх. Неяк я спытаў у аднаго калгасніка, навошта ён кладзе ў зямлю гэтульні ядахімікатаў? Той паглядзеў здзіўлена і адказаў: зямля цяпер наркаманка, яна без гэтага жыць не можа. Вось гэта ўжо сапраўды страшна.

Так, мы лянуемся сёння шукаць сродкі і спосабы, каб пазбегнуць экалагічнай катастрофы... А вось браты нашы меншыя па інтуіцыі шукаюць нас, людзей, каб выжыць, каб выратавацца ад нас жа, — вось як у вершы мінчаніна Міколы Сабалеўскага:

*"Зіма. У замеці снягоў*
*сцяжынкі і дарожкі...*
*Ані травы, ані кустоў*
*— і лось пайшоў да вёскі.*
*Заказытала ўнутры,*
*часцей уздыхалі грудзі,*
*як паказаліся двары,*
*насустрач выйшлі людзі.*
*Ды лось не адступіў,*
*пайшоў смялей наперад,*
*і смеласцю ён падкупіў усіх,*
*хто стрэціў звера*
*Дзяды стаялі, хлапчукі*
*на ганкавым пагосце.*
*І кожны частаваў з рукі*
*ляснога царства госця".*

Чамусьці па нейкай дзіўнай аналогіі ў сувязі з гэтым вершам успамінаецца адна дзённікавая занатоўка Льва Талстога, дзе ён гаворыць, што "жыць трэба заўсёды так, як быццам побач у пакоі памірае любімае дзіця. Яно памірае заўсёды. Заўсёды паміраю і я..." Прырода, варта дадаць,— наша Маці і наша Дзіця адначасова. Або як пісаў наш народны паэт Аркадзь Куляшоў:

*П'ючы шумлівай*
*славы хмель салодкі,*
*Не забывай*
*пра горыч палыну...*

Экалогія! Яна стала праблемай праблем. Мы ў нашай краіне моцна нашкодзілі прыродзе па бескультурнасці, з-за штучна выбраных шляхоў развіцця. Але і Амерыка, на якую ўсе цяпер моляцца, сячэ той сук, за які трымаецца род чалавечы. Вытвараем, вырабляем — і ўсяго не хапае... Усё хутчэй круціцца нястомны махавік індустрыі, усё болей рэчаў патрэбных і непатрэбных... Гэтая машына так збудавана, што збавіць абароты нельга,— толькі нарошчваць. Дык што ж атрымліваецца? З аднаго боку, у калодзежы прыродных рэсурсаў ужо абазначылася дно, з другога — растуць горы смецця, забруджана глеба, вада, паветра, знікаюць лясы, выміраюць жывёлы... Агромністая сусветная праблема!

Таму і не могуць быць раўнадушнымі да ўсяго гэтага многія нашы аўтары — вось хоць бы як паэт з г. Нароўлі

### *Мікола ЖДАНОВІЧ*

Кажуць, што кожная добрая справа,
зробленая за дзень чалавекам на зямлі,
ператвараецца ў яркую зорку на небе...
Як балюча становіцца, калі бачыш,
што зорак у небе так мала...
Значыць, дарэмна, пражыты быў дзень.
А якое шчасце чалавеку рабіць дабро
і ўвечары здзіўляцца: як відна на вуліцы!
Якое сёння зорнае неба!

### *Ала КАЖЭРА*

З неба чорнага ўпала заслона,
на аблоках выява крыжа,
табе, мова мая, нарачона
крочыць босай па вострых нажах...
Мне скаціліся гронкай слязінак
твае словы з вачэй-таямніц,
прараслі, як сунічкі з крывінак,
гукі песень з дарог-камяніц.
Як пайду спавядальнай чаргою,
у багоў аднаго папрашу:
роднай мовы жывою вадою
акрапіць у народа душу.

***

Як у Вітаўта ўкралі карону,
ужо з вякоў замасцілася гаць,
ды, відаць, беларусам да скону
сымбаль велічнай славы шукаць.
Шляхта польская хмарай чмялінай
перашкодзіла князю ў той час,
але слава вяршынь сакаліных
праз вякі даляцела да нас.
Дык пачуйма, як бомы спяваюць
пад дугой рысакоў маладых,
і ў грывах-раскошах гуляюць
ветры-поклічы вольніц сівых.

### *Кастусь ЦЫБУЛЬСКІ*

Плыве ў туман задымленае лета
ракоча салаўіна вадаспад...
І дзіўны месяц з воблакам-берэтам
уночы ціха падае на сад.
І ўжо краса кранае ціха травы
і разлучае нечыя сляды.
І ўжо світанак на ўсю актаву
бярэ акорд бяссоння маладых...

***

Я прыйду на зары, нечакана і ціха,
і знаёмую клямку нясмела крану.
На буслянцы прачнецца старая бусліха
і разбудзіць вясну...
Я прыйду на зары, калі коні на лузе
ў расяныя ўзоры сплятаюць сляды,
калі зноў заклякоча кавадла, як бусел,
калі выдыхне комін аладкавы дым.
Я прыйду на зары, і зайду я не ў хату —
падымуся ў маленства, у песні яго...
Як на самае лепшае маміна свята,
скача ў роднае печы
шчаслівы агонь.

***

Віруе снег, як вырай на зямлі,
пад ліхтаром вясковага неону...
І вусны твае шэптам улюбёным
пяшчотна мне насустрач паплылі.
О, час зімы — паразумення час,
неверагодных, казачных сюжэтаў!..
Віруе снег над зоркамі Сусвету,
і ён як споведзь чыстая для нас.

### *Віктар ВАБІШЧЭВІЧ*

Мы сябе прадавалі за злотыя,
за рублі, за даляры, за хлеб...
Нас штурхалі да ўсіх у лёкаі.
А чаго ж, дрыгавіч, ты аслеп?
Дзірванелі палеткі маленства—
зелянела чужацкая рунь.
І даводзілі нас да шаленства—
заганялі за Рэйн і Аргунь.
Аддавалі сыноў найдужэйшых
у паэты суседзям заўжды.
Адпраўлялі вучоных слыннейшых
за мяжу, найдалей — хоць куды...
Нашы дзеці растуць янычарамі—
не да слоў ім цяпер сваіх,
а матулі суцешаны марамі,
што сыны не забудуць іх.

***

Дзе мы плакалі над сваёй душой,
там цяпер вырастаюць дзіды,
там душы няма —
толькі змрок прыйшоў,
там чужыя даўно краявіды.
Незнаёмая зашуміць трава,
не пачуе ніхто каліну.
На заморскі лад прывітаюць вас
і ў бядзе адзінокага кінуць.
Знік спрадвечны лес, і знікае лёс.
Ты куды нас вядзеш, дарога?
У глухі набыт, дзе пустэча скрозь,
дзе абшары бязмоўя злога...

***

Тут, пад Мінскам, на ўзгорках — яліны
і ў зязюлі адметны палёт,
а паслухаю — лугам буслiным
шум свой шле мне палескі чарот.
Ці то Прыпяць, Дняпро альбо Нёман—
іх найболей люблю ў крыгаход,
іх трывожна-разважлівы гоман
і вясновага шчасця прыход.
Па зямлі сваёй светлай прайдуся:
Маларыта, Асвея, Карма...
У кожнай назве душа беларуса...
Мова родная — межаў няма!

